# Майстры пейзажу Каменеччыны

**электронная энцыклапедыя**

# ДАРАШЭВІЧ
# ФЁДАР
# ІВАНАВІЧ

(28.08.1905 - 23.12.1986гг.)

Фёдар Дарашэвіч нарадзіўся ў Камянцы, у сям`і сяляніна. Сям`я пераехала у Томскую губерню, дзе будучы мастак атрымаў пачатковую адукацыю і зрабіў першыя крокі як мастак-афарміцель. Мастацкую адукацыю атрымаў ў Омскім мастацкім вучылішчы імя Урубеля, інстытуце жівапісу, скульптуры і архітэктуры Імя Рэпіна ў Ленінградзе. Ён сумяшчаў выкладанне ў Пермскім мастацкім вучылішчы з творчай дзейнасцю. Творы Дарашэвіча пачалі экспанавацца на выстаўках. Вялікая Айчынная вайна застала мастака ў Пермі, дзе ён з першых дзён вайны займаўся агітацыйна-прапагандысцкай работай, працаваў мастаком у агітмайстэрні. У 1950г. вярнуўся у Беларусь, выкладаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

Дарашэвіч удзельнічаў у рэспубліканскіх і ўсесаюзных выстаўках, як майстар пейзажа, партрэта, сюжэтна-тэматычнай карціны. Ён аўтар станковых твораў “Пасля працы”, “Гарманіст ідзе”, “Трывога”, тэматычных карцін “Страляйце, не шкадуйце нас!”, “1941 год”, лірычных пейзажаў “Над Прыпяццю”, “Возера Мураці”, шэрагу партрэтаў. Любімыя мясціны роднага горада мастак адлюстраваў на карцінах “Камянецкая вежа”, “Вячэрні Камянец", "Пад сінім небам", "Дарога на Замасты ".

Работы Фёдара Дарашэвіча знаходзяцца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея і Беларускага саюза мастакоў, музеяў Полацка, Бялынічаў і Пермі, у праватных зборах. Яго творчасць можна лічыць каштоўнай часткай культурнай спадчыны краіны, аб чым сведчаць традыцыйныя выставы і пленэры, прысвечаныя памяці таленавітага мастака.

*Спіс літаратуры*

1. Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. – Мінск, 1998. – Т. 6. – С. 52.
2. Каменецкому району 70 лет: брошюра / Отдел идеологической работы Каменецкого районного исполнительного комитета. - Каменец, 2010. – С. 34.
3. Кто есть кто в Республике Беларусь. Люди дела / [под ред. И.В. Чекалова]. – Мн.: Энциклопедикс, 1999. – С. 110.
4. Культура Беларусі: энцыклапедыя: [у 6 т.]. – Мінск, 2012. – Т. 3. – С. 364–365.
5. Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.—Мн.: Ураджай, 1997. - С. 508.
6. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. – Мінск, 1985. – Т. 2. – С. 271.
7. Гармель, Е. Творчества связующая нить / Елена Гармель // Заря. – 2011. – 27 сент. – С. 5.
8. Павлова, Л. Художник Фёдор Дорошевич продолжает жить в полотнах и памяти / Любовь Павлова // Веч. Брест. – 2011. – 29 сент. – С. 9.
9. Новая гісторыя старых карцін // Мастацтва. – 2010. - № 9. – С. 41 – 43.

# ШЫКІН ВАСІЛЬ КІРЫЛАВІЧ

(28.12.1914 - 23.02.1998гг.)

**Васіль Шыкін нарадзіўся ў в. Царкоўнікі Камянецкага раёна, у вялікай сялянскай сям`і. Будучы мастак з маленства марыў маляваць, таму пайшоў вучыцца ў Віцебскае мастацкае вучылішча. Ён удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне і быў узнагароджаны ордэнам Славы ІІІ ступені. З 1949г. аўтар пачаў удзельнічаць у мастацкіх выставах. У 1960 г. Шыкін прыняты ў Беларускі Саюз мастакоў.**

**Васіль Шыкін працаваў у станкавым жывапісе, пісаў тэматычныя карціны, лірычныя пейзажы. Яго творы прасякнуты цёплым лірычным настроем, што асабліва бачна ў палатне "Сяброўкі", панарама якога гучыць радасным гімнам працы і жыццю. Мяккай свежасцю вее ад пейзажаў "Да вечара", "Эцюд", "Ля калодзежа", "Белавежская пушча", "Ваколіца". Сярод жывапісных твораў мастака вылучаюцца карціны "Арганізацыя калгаса", "Падпольшчыкі", "Вайна", "Вясна 1945", якія з`яўляюцца біяграфічнымі, так як аўтар сам прайшоў праз цяжкасці няпростых гадоў.**

**Васіль Шыкін адзін з вядучых мастакоў Берасцейшчыны. Яго творы знаходзяцца ў музеях і карцінных галерэях Мінска, Брэста, Пінска, прыватных зборах розных краін свету.**

*Спіс літаратуры*


1. **Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. – Мінск, 2004. – Т. 18, кн. 1. – С. 9.**
2. **Мастакі Брэстчыны: альбом-каталог / [аўт.-склад. Кузьміч М.П.].—Брэст: Брэсцкая друкарня, 2010.—С. 152 - 153.**
3. **Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.**
4. **Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.—Мн.: Ураджай, 1997.- С. 513.**
5. **Республика Беларусь: энциклопедия: [в 7 т.]. – Минск, 2008. – Т. 7. – С. 588.**
6. **Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. – Мінск, 1987. – Т. 5. – С. 604.**
7. **Валасюк, Л. Мастак з добразычлівай ўсмешкай ў вачах.../ Валасюк Ленанід // Народная трыбуна. - 2010. - 9 студз. - С. 11.**

# ШАХАЛЕВІЧ КАНСТАНЦІН ГАЎРЫЛАВІЧ

**(**5.09.1917 - 25.06.1969гг.).

**Канстанцін Шахалевіч нарадзіўся ў в. Бародзічы Камянецкага раёна. Скончыў сем класаў польскай школы. Да пачатку вайны ён вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. У 1944 г. Шахалевіч быў прызваны ў Чырвоную Армію, але не забываў пра творчасць, маляваў і фатаграфаваў у час паміж баямі. З 1950г. аўтар удзельнічаў у раённых, абласных і рэспубліканскіх выставах. У 1953г. Канстанцін Шахалевіч стаў першым мастаком раённай мастацкай майстэрні.**

**Мастак працаваў у жанры нацюрморта і пейзажа. Найбольш вядомыя работы Канстанціна Шахалевіча "Сосны ў Белавежсвай пушчы", "Прускаўскі лес", "Вясна", "Рака Лясная", "Від на Камянец з ракі Лясной", "Камянецкая вежа" і інш.**

*Спіс літаратуры*

1. Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.— Мн.: Ураджай, 1997. - С. 513.
2. Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.

# ЮЗЭФ ХАРЫТОН

(08.11.1912 – 08.01.1975 гг.)

Юзэф Харытон нарадзіўся ў в. Крупіцы, ля Сямятыч, Бельскаага павета Гродзенскай губерні, у мнагадзетнай сям`і. Матэрыяльныя цяжкасці прымусілі сям`ю пераехаць у в. Тумін, затым у Высока-Літоўск, дзе будучы мастак скончыў школу і гімназію. У 1928г. пачаў вучобу ў Варшаўскай школе выяўленчых мастацтваў, але праз год спыніў навучанне і на працягу семестра быў вольным слухачом на аддзяленні мастацтва і скульптуры Кракаўскай Акадэміі прыгожых мастацтваў. У 1932г. Харытон вярнуўся ў Высока-Літоўск, быў чыноўнікам ў гміне, фатографам, распісваў касцёльныя крыпты.

У час другой сусветнай вайны дом Юзэфа Харытона суседнічаў з гетта, з вокнаў ён бачыў страшэнную трагедыю. Мастак лічыў сваім абавязкам пасля вайны захаваць сведчанні праўды пра Халакост. Ім створана шмат карцін яўрэйскай тэматыкі, якія прынеслі аўтару славу, асабліва за мяжой. Пасля вайны Харытон займаўся рэканстукцыяй і роспісам касцёлаў і цэркваў. У 1964г. пераехаў ў Сямятычы, уступіў у саюз польскіх мастакоў, працаваў інструктарам жывапісу ў павятовым Доме культуры. Усё сваё далейшае жыццё мастак прысвяціў творчасці.

Найбольш вядомы яго карціны “Каменец-Литовск. Ветряки”, “Каменец-Литовский. Школьная улица”, “Каменец-Литовский. Вежа со стороны улицы Похылой”. Юзэфа Харытона называюць Высокаўскім Шагалам. Можна яго аднесці і да рэалістаў, бо ён паказваў толькі тое, што сам бачыў, перажыў, адчуў.

*Спіс літаратуры*


1. Мусевіч, Г. Юзэф Харытон - мастак незвычайны / Георгій Мусевіч // Нав. Камянеччыны. - 2007. - 1 верасня. - С. 7.
2. Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.
3. Волкович, А. Высоковский Шагал: штрихи к портрету художники Юзефа Харитона / Александр Волкович // Брестский курьер. – 2007. - № 33. – С. 22.

# ЛУК
# ІВАН
# ВАСІЛЬЕВІЧ

(09.03.1922 – 18.03.1981гг.)

**Іван Лук нарадзіўся ў в. Жылічы Камянецкага раена. Спецыяльнай мастацкай адукацыі не атрымаў. Ён займаўся разьбой па дрэве. З 1953г. удзельнічаў у мастацкіх выставах.**

**Работы Івана Лука вызначаюцца невялікімі памерамі, дакладнай распрацоўкай нізкага рэльефу. Асноўныя яго работы: рэльефнае пано «У.І. Мічурын», кампазіцыя «Алені ў Белавежскай пушчы», «Карл Маркс», «Паляўнічыя», рэчы ўтылітарнага прызначэння (партсігары, нажы). Творы Івана Лука зберагаюцца ў Дзяржаўным музеі Рэспублікі Беларусь.**

*Спіс літаратуры*

1. **Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.— Мн.: Ураджай, 1997. - С. 509 - 510.**
2. **Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.**

# ГРУШЭЎСКІ ГЕОГІЙ

**(15.07.1929 – 14.05.1990гг.)**

Георгій Грушэўскі нарадзіўся ў Варонежы, у сям`і інжынера. У час вайны сям`я пераехала на Радзіму продкаў – у Камянец, дзе і прайшло яго дзяцінства. У школьныя гады ён цікавіўся рознымі галінамі ведаў, у тым ліку і жывапісам. Пасля заканчэння школы спрабаваў паступіць у горны інстытут, але не атрымалася. Грушэўскі быў прызваны ў армію, пасля якой, займаўся настаўніцкай работай. Паступіў на фізічна-матэматычны факультэт Ужгарадскага універсітэта. Пасля яго заканчэння працаваў настаўнікам фізікі і астраноміі у школах Камянецкага раёна і Камянца.

Георгій Грушэўскі быў чалавекам шырокага дыяпазону ведаў, займаўся яшчэ і жывапісам. Любоў мастака да прыроды і родных мясцін адлюстравана ў яго карцінах "Усход сонца", "Жураўлі", "Камянецкі стоўп", "Лясная зараз" і інш.

*Спіс літаратуры*

1. **Мусевич, Г. Грушевский Георгий Георгиевич [неопубликованный документ] / Гаоргий Мусевич. – Каменец, 1997.**
2. **Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.**
3. **Курылёва, С. Настаўнік і яго час / Святлана Курылёва // Нав. Камянеччыны. – 1997. – 6 жніўня.**

# КАРПУК МІХАІЛ АНДРЭЕВІЧ

(05.03.1930г.).

Міхаіл Карпук нарадзіўся ў в. Мыкшыцы Камянецкага раена. Мастацкую адукацыю атрымаў у Мінскім мастацкім вучылішаы (1956г.), Маскоўскім паліграфічным інстытуце (1962г.). Ён працаваў мастаком-пастаноўшчыкам на Беларускім тэлебачанні і кінематаграфіі, аформіў значную колькасць тэлеперадач, пастановак, зрабіў мноства эскізаў дэкарацый да тэлеспектакляў і кінафільмаў. Сярод найбольш вядомых яго работ: тэлепастаноўкі “Будка№ 27”, “Суд”, “Песня музыкі”, тэлеспектаклі “Сымон-музыка”, “Сэрца на далоні”, тэлефільмы “Уся каралеўская раць”, “Апошняе лета дзяцінства”, мастацкі фільм “Канец бабінага лета” і інш. З 1961г. аўтар удзельнічаў у мастацкіх выставах. Ён з'яўляецца членам Саюза кінематаграфістаў Рэспублікі Беларусь .

Галоўная тэма творчасці Міхаіла Карпука - гэта ўслаўленне прыгажосці роднай прыроды. Мастак стварыў шэраг графічных работ алоўкам, у якіх пераважаюць матывы вясковага жыцця «Апошні снег», «Зімка», серыі пейзажаў лірычна-эпічнага характару «Помнікі архітэктуры Беларусі», «Мая Радзіма», жывапісныя работы «Слуцкі матыў», «Восеньскі матыў», «Там маё дзяцінства» і інш.

Работы Міхаіла Карпука знаходзяцца ў музеях і прыватных калекцыях розных краін свету і неаднаразова экспанаваліся на Радзіме мастака.

## *Спіс літаратуры*


1. **Беларуская энцыклапедыя: у 18 т.– Мн.: БелЭн, 1999. - Т. 8 .– С.97.**
2. **Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.—Мн.: Ураджай, 1997.- С. 509.**
3. **Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. – Мінск, 1985. – Т. 2. – С. 695.**
4. **Каменецкому району 70 лет: брошюра / Отдел идеологической работы Каменецкого районного исполнительного комитета. - Каменец, 2010. – С. 34.**
5. **Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010**.
6. **Бунеева, Л. «В искусство я проскочил на паровозе!» / Людмила Бунеева // Веч. Брест. – 2008. – 15 окт. – С.5.**
7. **Рэзнічук, І. Мастак, які нарадзіўся ў Мыкшыцах / Ірына Рэзнічук // Нав. Камянеччыны. – 2008. – 22 кастр.**

# САБАЛЕЎСКІ ВАСІЛЬ МІКАЛАЕВІЧ

**(03.10.1932 – 11.01.2000гг.).**

Васіль Сабалеўскі нарадзіўся ў в. Ліпна Камянецкага раена, у сялянскай сям`і. У 1954г. скончыў Ленінградскае мастацка-графічнае педагагічнае вучылішча. Ён удзельнічаў у абласных і рэспубліканскіх мастацкіх выстаўках, міжнародных жывапісных пленэрах. Сабалеўскі працаваў настаўнікам малявання ў Ерцаўскай сярэдняй школе Архангельскай вобласці, мастаком мастацкай майстэрні ў Камянцы. З 1957г. жыў у Брэсце, працаваў ў мастацка-вытворчай майстэрні. З 1964г. ён член Беларускага Саюза мастакоў. З 1964 па 1995гг. займаў пасаду старшыні Брэсцкай абласной арганізацыі Саюза мастакоў БССР.

Работы Васіля Сабалеўскага выкананы маслам, пастэллю, акварэллю, у тэхніцы маркетры (інхрустацыя па дрэве), у станкавым жывапісе, у жанрах пейзажа і нацюрморта. У аснову творчасці мастака лягла вялікая любоў да роднай зямлі, да свайго краю, да беларускай прыроды. Яго творам уласцівы ўраўнаважанасць кампазіцыі, трактоўка формы шырокімі мазкамі, эмацыянальнасць у перадачы колеравага багацця прыроды. Найбольш вядомыя творы: «Зямля», «Аэрадром у гарах», «Кастрычнік. Гадавіна», «Ля абрыву», «Апошняе лісце», «Асеннія далі», «Восень. Возера Меднае», «Май. Рака Лясная», «Ветраны дзень», «Восень», «Апошні снег», «Бэзавы квецень».

Карціны Васіля Сабалеўскага знаходзяцца ў многіх музеях і мастацкіх галерэях краіны, у прыватных калекцыях Беларусі, Польшчы, Германіі, Венгрыі і інш.

*Спіс літаратуры*

1. **Каменецкому району 70 лет: брошюра / Отдел идеологической работы Каменецкого районного исполнительного комитета. - Каменец, 2010. – С. 34.**
2. **Мастакі Брэстчыны: альбом-каталог / [аўт.-склад. Кузьміч М.П.].—Брэст: Брэсцкая друкарня, 2010.—С. 100.**
3. **Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.**
4. **Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.—Мн.: Ураджай, 1997. - С. 509.**
5. **Художники Советской Белоруссии / Редколлегия: В.И. Версоцкий [и др.]. — Минск: Беларусь, 1976.—С. 324.**
6. **Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / Рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд) і інш. — Мн.: Беларус. Сав. Энцыклапедыя, 1987.—Т.4.—С. 593.**
7. **Новік, Г. На вясковых ростанях: [пра мастака з в. Ліпна Сабалеўскага Васіля Мікалаевіча] / Галіна Новік // Нав. Камянеччыны. — 2005.—13 крас.—С. 3.**

**Аляксей Васілеўскі нарадзіўся ў в. Сюлкі Камянецкага раена. Скончыў Брэсцкае чыгуначнае вучылішча. Не маючы спецыяльнай мастацкай адукацыі, працаваў мастаком ў арганізацыях і на прадпрыемствах. З 1953г. Васілеўскі ўдзельнічаў у абласных выставах самадзейных мастакоў. На яго карцінах адлюстраваны пейзажы родных мясцін, сярод якіх рамантычныя альтанкі, казачныя азёры, дзіўныя звяры і кветкі. Творчасць Аляксея Васілеўскага адрозніваецца сваёй сакавітасцю фарбаў, аптымізмам і радасцю жыцця.**

*Спіс літаратуры*

1. Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.— Мн.: Ураджай, 1997. - С. 508.
2. Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.

# ДОШЧЫК ДЗМІТРЫЙ РАМАНАВІЧ

(03.01.1935 г.)

Дзмітрый Дошчык нарадзіўся ў в. Хмелева Жабінкаўскага раёна. Скончыў Брэсцкі педінстытут. Працаваў ў Камянецкім раёне, узначальваў раённы аддзел адукацыі, быў дырэктарам школы. У 1978г. яму прысвоена званне "Заслужаны настаўнік Беларусі".

Мастак працаваў у жанры пейзажу і нацюрморту. У сваіх карцінах імкнуўся адлюстраваць прыгажосць прыроды роднага краю. Ён склаў серыю работ аб Камянцы і яго ваколіцах: “Камянецкі парк”, “Тапаліная алея”, “Турыстычны гарадок”, “Вясна” і інш. Пейзажы з пушчанскімі краявідамі “Зіма ў Белавежскай пушчы”, ”р. Лясная ў в.Голы Барок”. Любімыя героі яго твораў дрэвы і кветкі: “Неразлучныя”, “Вясновы дуб”, “Сасна – прыгажуня”, “Палявыя кветкі”, Бэз” і інш. Дзмітрый Дошчык удзельнік раённых і абласных мастацкіх выстаў, ладзіліся яго персанальныя выставы ў Брэсце і Камянцы.

*Спіс літаратуры*


1. Кто есть кто в Республике Беларусь. 2005. / [под ред.И.В. Чекалова, автор составитель А.И. Котов]. – Мн.: ООО «Мэджик-Бук», 2005. – Т. 2. – С. 107.
2. Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.
3. Колесава, Н. Майстар з вялікай літары / Наталля Колесавав // Нав. Камянеччыны. – 2004. - 29 снежня.

# ЗАРЭЦКІ
# ПЕТР
# ВАСІЛЬЕВІЧ

(06.05.1935г. – 18.04.2013г.).

**Пётр Зарэцкі нарадзіўся ў в. Навіцкавічы Камянецкага раена. Скончыў Кішынёўскае мастацкае вучылішча, вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на аддзяленні станкавага жывапісу і ў Віцебскім педагагічным інстытуце на мастацка-графічным аддзяленні. З 1966г. удзельнік абласных, рэспубліканскіх і міжнародных мастацкіх выставак. З 1994г. Пётр Зарэцкі член Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь. Ён узнагароджаны медалём Беларускага Саюза мастакоў “За заслугі ў выяўленчым мастацтве”.**

**Мастак працуе ў станкавым і манументальна-дэкаратыўным жывапісе, дэкаратыўна-ўжытковым мастацтве, плакаце, графіцы. Асноўныя яго творы: “Дываноўшчыца”, “Лета – вадапой”, ”Ішоў атрад па беразе…”, пано: “Купалле”, “Белавежская пушча”, “Палессе”, “Францыск Скарына” і інш.**

**Творы Пятра Зарэцкага знаходзяцца ў музеях Мінска, Брэста, Пінска і замежных прыватных калекцыях.**

*Спіс літаратуры*


1. Каменецкому району 70 лет: брошюра / Отдел идеологической работы Каменецкого районного исполнительного комитета. - Каменец, 2010. – С. 35.
2. Мастакі Брэстчыны: альбом-каталог / [аўт.-склад. Кузьміч М.П.].—Брэст: Брэсцкая друкарня, 2010.—С. 52.
3. Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.
4. Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.—Мн.: Ураджай, 1997. - С. 509.
5. Регионы Беларуси: энциклопедия : в 7 т. Брестская область. – Минск, 2009. – Т. 1, кн. 1. – С. 393–394.

# СВЕНТАХОЎСКІ
# ПЁТР
# УЛАДЗІМІРАВІЧ
**(19.03.1939 – 27.02.2006гг.)**

Пётр Свентахоўскі нарадзіўся ў в.Зубачы Камянецкага раена. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча і аддзяленне жывапісу ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Выкладаў у Рэспубліканскай мастацкай школе-інтэрнаце, у Акадэміі мастацтваў, дзе вёў акадэмічны малюнак. Ён быў сакратаром па арганізацыйных пытаннях у Саюзе мастакоў. З 1960г. удзельнічаў у шматлікіх усесаюзных і рэспубліканскіх выстаўках. Пётр Свентахоўскі быў узнагароджаны спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Беларусі (2000г.), Ганаровай граматай Савета Міністраў (2005г.).

Адным з асноўных стрыжняў яго творчасці была ваенная тэматыка. Гераічнаму змаганню народа ён прысвяціў кампазіцыі «Трывога», «На заданне», «Подзвіг беларуса І.Ю.Філідовіча». У карціне «Невядомы салдат» ён імкнуўся перадаць трагізм лёсу кожнага асобнага чалавека, які прайшоў праз жахі вайны. Мастака захаплялі гістарычныя падзеі, помнікі дойлідства, спакойныя і мілагучныя краявіды роднай зямлі і людзі на ёй. Непаўторныя вобразы беларускага краю ўвасобіў ён у пейзажах “Ля возера. Палессе”, “Возера Чарцсвяты” і інш. Свентахоўскі пісаў нацюрморты, спрабаваў сябе і як партрэтыст, сярод напісаных партрэтаў абліччы славутых землякоў “Еўфрасіння Полацкая”, ”Цішка Гартны” і інш.

Творчасці аўтара ўласцівы лаканізм выяўленчых сродкаў, эпічнае гучанне, унутраны драматызм. Мастацкая спадчына Пятра Свентахоўскага вельмі багатая і разнастайная. Яго работы ёсць у многіх музеях краіны, у прыватных калекцыях за мяжой.

## *Спіс літаратуры*


1. Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. – Мінск, 2002. – Т. 14. – С. 250.
2. Каменецкому району 70 лет: брошюра / Отдел идеологической работы Каменецкого районного исполнительного комитета. - Каменец, 2010. – С. 35.
3. Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.
4. Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.— Мн.: Ураджай, 1997. - С. 512.
5. Регионы Беларуси: энциклопедия: в 7 т. Брестская область. – Минск, 2009. – Т. 1, кн. 2. – С. 334.
6. Республика Беларусь: энциклопедия: [в 7 т.]. – Минск, 2008. – Т. 6. – С. 581.
7. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. – Мінск, 1987. – Т. 4. – С. 674.
8. Фатыхава, Г. Ён слухаў - і працаваў / Галіна Фатыхава // Літаратура і мастацтва. – 2007. – 19 кастр. – С. 16.

# ТУРКОЎ
# АНАТОЛЬ
# САВЕЛЬЕВІЧ

(01.10.1949г.)

**Анатоль Туркоў нарадзіўся ў Камянцы. Спецыяльнай мастацкай адукацыі не атрымаў, а самастойна спасцігаў тэорыю выяўленчага мастацтва. З 1975г. ён працаваў мастаком мастацкіх майстэрняў у Камянцы. З 1976г. пачаў удзельнічаць у раённых, абласных і міжнародных фестывалях, мастацкіх выставах і пленэрах. З 2005 г. Анатоль Туркоў член Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці. Ён з`яўляецца старшынёй грамадскага аб`яднання аматараў мастацтваў рэгіёну "Белавежская пушча" і Брэстчыны "Тур".**

**Аўтар аформіў інтэр`еры многіх грамадскіх будынкаў, якія сталі ўпрыгожаннем Камянца, выканаў уязныя манументальныя знакі г. Камянец і Камянецкі раён, удзельнічаў у вырабе помнікаў загінуўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны. Акрамя жывапісу Туркоў займаецца разьбой па дрэве. Стыль мастака своеасаблівы, ён адточвае кожную дэталь з любоўю і густам. Аўтар самастойна выражае мастацкія задачы ў розных жанрах, яго палотнам і драўляным творам ўласцівы жывапісная культура, выразнае каларыстычнае і кампазіцыйнае рашэнне. У апошні час ён займаецца паркавай скульптурай.**

**Скульптуры Анатоля Туркова ўстаноўлены ў тых гарадах Беларусі, Польшчы, Літвы, дзе былі выкананы.**

*Спіс літаратуры*


1. **Каменецкому району 70 лет: брошюра / Отдел идеологической работы Каменецкого районного исполнительного комитета. - Каменец, 2010. – С. 35.**
2. **Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.**
3. **Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.—Мн.: Ураджай, 1997. - С. 512.**
4. **«Там, па майскай расе» // Нав. Камянеччыны. – 2009. – 10 чэрвеня. – С. 3.**
5. **У дрэве жыве вобраз // Нав. Камянеччыны. - 2008. - 6 верасня. - С. 2**
6. **Парафянюк, Г. Пасля пленэру – на «Ягайлаўскі кірмаш» / Г. Парафянюк // Нав. Камянеччыны. – 2007. – 25 жніўня.**
7. **Аб`яднанне культур трох народаў // Нав. Камянеччыны. – 2005. – 3 жніўня. – С. 4.**
8. **Мірончык, М. Незвычайныя ўмельцы / М. Мірончык. - Літаратура і мастацтва. – 2005. – 2 верасня. – С. 12.**

**Мікалай Маеўскі нарадзіўся ў в. Дварцы, Камянецкага раёна. Маляваць пачаў з дзяцінства. Пасля заканчэння школы ён паступіў у Ленінградскую мараходскую школу. Падчас работы на караблях Балтыйскага мараходства, на лініях Аўстраліі, Амерыцы, Еўропы, Маеўскі увесь час марыў быць мастаком. Мастацкую адукацыю ён атрымаў у Ленінградскім мастацкім вучылічы імя В.А.Сярова. Удзельнічаў у выстаўках з 1979г., а ў 1987г. стаў членам Саюза мастакоў Беларусі. Мастак працаваў у Брэсце ў майстэрнях мастацкага фонду, дзе стварыў сваю незабыўную карціну, водгук былых марскіх падарожжаў «Мой сябар – вецер».**

**Галоўнымі накірункамі творчасці Мікалая Маеўскага з`яўляюцца краявіды, помнікі гісторыі і дойлідства, фальклорныя матывы. Шмат сваіх жывапісных і графічных твораў ён прысвяціў роднай Камянеччыне, сярод іх – “Камянец”, “Вясна. Дварцоўская сажалка”, “Рака Лясная”. Аўтарам створана цэлая серыя жывапісных карцін-пейзажаў на тэму Белавежскай пушчы “Поры года”. Удалымі атрымаліся яго серыі палотнаў “Хлябы Беларусі”, “Беларусь – мая шыпшына”, “Нацюрморты з каласамі”, “Старажытныя гарады Беларусі”.**

**Работы Мікалая Маеўскага захоўваюцца ў музеях і прыватных калекцыях краіны, многія з іх трапілі за мяжу – ЗША, Швецыю, Германію, Францыю, Японію.**

*Спіс літаратуры*


1. **Каменецкому району 70 лет: брошюра / Отдел идеологической работы Каменецкого районного исполнительного комитета. - Каменец, 2010. – С. 35.**
2. **Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.**
3. **Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.— Мн.: Ураджай, 1997. - С. 510 - 511.**
4. **Мікола Маеўскі: [альбом] . – Брэст, 2010.**
5. **Барысюк, У. «Сонца ўсходзіць за Белаю вежаю» … / Уладзімір Барысюк // Нав. Камянеччыны. – 2010. – 27 лютага. – С. 3.**
6. **Валасюк, Л. Палёт над пушчанскім гняздом / Леанід Валасюк // Народная трыбуна. – 2010. – 6 сакавіка. – С. 11.**

# ЛЫШЧЫК АЛЯКСАНДР ІВАНАВІЧ

(13.08.1951 – 24.05.2012гг.)

**Аляксандр Лышчык нарадзіўся ў Камянцы. Мастацкую адукацыю атрымаў у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце на скльптурным аддзяленні. Пасля яго заканчэння ён працаваў выкладчыкам у гэтым жа інстытуце (з 1985 - 1992гг.). Мастак удзельнічаў у рэспубліканскіх выставах з 1983г. У гэтым жа годзе створана творчая майстэрня, члена Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь, скульптара Аляксандра Лышчыка.**

**Аўтар працаваў у галіне станкавай і манументальнай скульптуры. Ім створаны шэраг помнікаў і манументальна-дэкаратыўных комплексаў у Камянецкім раёне: бюст С.А. Дубовіка – дзеяча рэвалюцыйнага руху для мемарыяльнага комплексу ў  в. Рэчыца, скульптура жанчыны ў жалобе на магіле партызан і воінаў у в. Турна, скульптутра воіна  на брацкай магіле савецкіх воінаў у в.Трасцяніца, рэльеф помніка землякам, загінуўшым на франтах Вялікай Айчыннай вайны ў в. Хадасы. У Камянцы  скульптарам створаны помнік дойліду Алексе.**

**Скульптуры Аляксандра Лышчыка знаходзяцца ў прыватных калекцыях Рэспублікі Беларусь, Арабскіх Эміратаў, Англіі, Бельгіі, Італіі, Кітая, Люксембурга, Польшчы, Расіі, ЗША, Швецыі і іншых краін свету.**

*Спіс літаратуры*


1. **Каменецкому району 70 лет: брошюра / Отдел идеологической работы Каменецкого районного исполнительного комитета. - Каменец, 2010. – С. 35.**
2. **Кто есть кто в Республике Беларусь. 2009 / [под ред. И.В. Чекалова]. – Мн.: Энциклопедикс, 2009.– С. 141.**
3. **Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.— Мн.: Ураджай, 1997. - С. 510.**
4. **Памяці земляка // Нав. Камянеччыны. - 2011. - 18 мая.**
5. **Вайніцкі, П. Помнік дойліду Алексу / П. Вайніцкі // Роднае слова. - 2005. - №2. - С.54.**

# МАЛАЖАВЫ ВІКТАР ФЕДАРАВІЧ

(10.09.1955г).

**Віктар Малажавы нарадзіўся ў Камянцы. Першую мастацкую падрыхтоўку па жывапісу ён спасцігаў у майстэрні Ф.І.Дарашэвіча і ў студыі жывапісу Белсаўпрофа ў А.М. Міхайлоўскага, па дызайну - у студыі Ю.М.Галкіна. Мастацкую адукацыю атрымаў у Бабруйскім, Віцебскім і Кобрынскім мастацкіх вучылішчах. Малажавы ўдзельнічаў у выстаўках з 1972г.. Ён узнагароджаны дыпломамі першай ступені ЮНЕСКА і ВДНГ у Маскве.**

**Віктар Малажавы стварае праекты і выконвае афармленне многіх грамадскіх будынкаў. Ён працуе ў галіне прыкладнога мастацтва, займаецца стварэннем і рэстаўрацыяй царкоўных іканастасаў. Ніводны сюжэт у яго іканастасах ніколі не паўтараецца, кожны элемент прадуманы, мае сваё асаблівае значэнне. Асаблівасцю працы Віктара Малажавага з'яўляецца тое, што ў яго не можа быць персанальнай выставы, як у іншага мастака, бо ўсе работы знаходзяцца ў цэрквах. Адна з лепшых работ разьбяра - лівот для іконы Маці Божай Жыровіцкай, які выкананы ў стылі барока. Ім створаны іканастас новай царквы ў в. Расна.**

**Віктара Малажавага ведаюць далёка за межамі Брэстчыны. Ён мае благаславенне на сваю дзейнасць Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта.**

*Спіс літаратуры*


1. **Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.**
2. **Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.—Мн.: Ураджай, 1997. - С. 511.**
3. **Нарэйка, Н. У імя Божае / Настасся Нарэйка // Нав. Камянеччыны. - 2010. - 27 ліст. - С. 4.**
4. **Пятручык, Т. Вінаградная лаза Віктара Малажавага / Т. Пятручык // Культура. - 2005. - 10 верас. – С. 24.**

**Павел Лук нарадзіўся ў в. Жылічы Камянецкага раёна. Пасля заканчэння Камянецкай сярэдняй школы атрымаў мастацкую адукацыю ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на аддзяленні скульптуры. З 1986г. ён удзельнічае ў мастацкіх выставах, а з 1990г. член Беларускага Саюза мастакоў.**

**Павел Лук аўтар твораў у манументальнай, станкавай, мемарыяльнай скульптуры. Ім створаны шэраг скульптур на гістарычную тэматыку: "Эмілія Плятэр", "Кастусь Каліноўскі", "Францыск Скарына" і іншыя. Ён з'яўляецца аўтарам рэльефу помніка на магіле ахвяр фашызму ў в Лескі .**

**Творы скульптара знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі, Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, літаратурных музеях Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, К. Чорнага, фондах Беларускага саюза мастакоў і прыватных калекцыях .**

*Спіс літаратуры*


1. Каменецкому району 70 лет: брошюра / Отдел идеологической работы Каменецкого районного исполнительного комитета. - Каменец, 2010. – С. 35.
2. Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.
3. Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.— Мн.: Ураджай, 1997. - С. 511.

**Уладзімір Чыквін нарадзіўся ў г. Высокае Камянецкага раёна. Вучыўся ў Віцебскім педагагічным інстытуце на мастацка-графічным факультэце. Ён працаваў на Брэсцкай фабрыцы мастацкіх вырабаў разьбяром. Выкладаў маляванне і разьбу па дрэве ў Мікалаеўскай васьмігадовай школе, камянецкім Доме піянераў і школьнікаў. Працаваў майстрам разьбы па дрэве ў Кобрынскім вучылішчы народных промыслаў.**

**Творчую дзейнасць Уладзімір Чыквін пачаў як самадзейны майстар. Першая выстава скульптур з дрэва адбылася ў 1975г. З 1983г. ён ўдзельнічае ў абласных і рэспубліканскіх выставах як рэзчык па дрэве, жывапісец, графік. Яго работам характэрны высокае прафесійнае майстэрства, закончанасць. У карцінах аўтара шмат вуглоў і ламаных ліній, змрочных таноў і шырокіх мазкоў.**

**Работы Уладзіміра Чыквіна есць у Казахстане, Кыргызстане, Польшчы, Германіі, Італіі.**

*Спіс літаратуры*

1. **Каменецкому району 70 лет: брошюра / Отдел идеологической работы Каменецкого районного исполнительного комитета. - Каменец, 2010. – С. 35.**
2. **Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.**
3. **Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.— Мн.: Ураджай, 1997. - С. 513.**
4. **Кандрашук, Н. Белавежскія карані разьбяра / Н. Кандрашук // Літаратура і мастацтва. - 2010. - 14 мая. - С. 12.**
5. **Глущенко, Т. Древо на всю жизнь / Т. Глушенко // Веч. Брест. - 2005. - 17 авг. - С. 6.**

# ВАЎЧОК
# МІКАЛАЙ
# УЛАДЗІМІРАВІЧ

(29.12.1964г.)

**Мікалай Ваўчок нарадзіўся ў Камянцы. Мастацкую адукацыю атрымаў у Мінскім мастацкім вучылішчы імя Глебава і ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце на скульптурным факультэце. З 1987г. удзельнічаў у рэспубліканскіх выставах маладых мастакоў і скульптараў.**

**Мікалай Ваўчок працуе ў галіне станкавай скульптуры. Аўтар схільны да філасофскіх і гістарычных тэм. Асноўныя яго творы «Сузіральнік», «Легенда ў гатычным стылі», «Крылаты», «Ахвярны», «Музыка». Мікалай Ваўчок стварыў скульптуры шасці апосталаў для касцёла св. Сымона і Алены ў Мінску.**

*Спіс літаратуры*


1. **Мусевіч, Г. Слоўнік Камянеччыны: [неапублікаваны дакумент] / Георгій Мусевіч. – Камянец, 2010.**
2. **Памяць: Камянецкі раён: гіст. дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэд.-склад.: Г.П.Парафянюк, Р.Я.Смірнова.— Мн.: Ураджай, 1997. - С. 508.**

**Творчасць малавядомых, самадзейных мастакоў прадстаўлена такімі імёнамі як: Драпун Ігар, Шорычава Святлана, Меліхава Зоя, Палюховіч Мікалай, Максімовіч Міхаіл, Хініч Валянціна, Мусорына Наталля, Раманенка Аляксандра, Кіслячук Таццяна, Туркова Таццяна, Постнікава Святлана. Іх работы неаднаразова выстаўляліся ў Дамах культуры і бібліятэках раёна.**

**Складальнік**:  І. В. Лось – гал. бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынку.

**Рэдактор:** Г. П. Жэдзік - заг. аддзела бібліятэчнага маркетынку.

**Камп`ютарная вёрстка, дызайн:** І. В. Лось